# КРЫНІЦА

№7 (31) КАСТРЫЧНІК 2012 www.bchd.info



# БАЙКОТ АДБЫЎСЯ!

**Назіральнікі ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі былі зарэгістраваныя на некалькіх сотнях выбарчых участкаў па ўсёй краіне, і дзякуючы ім, мы ведаем колькі насамрэч прыйшло людзей на выбарчыя ўчасткі.**

Так, рэальная яўка, па выніках усіх дзён датэрміновага галасавання на «выбарах» у Беларусі скалала 17,1% выбаршчыкаў. Гэтая лічба найбольш рэалістычна адлюстроўвае аб'ём працы рэжыму па загоне людзей на выбарчыя ўчасткі 18-22 верасня.

Пры гэтым трэба ўлічыць, што ў датэрміновым галасаванні, у асноўным, прымушалі ўдзельнічаць студэнтаў, вайскоўцаў і іншыя найбольш залежныя ад уладаў групы насельніцтва.

У асноўны дзень галасавання назіральнікі БХД аператыўна перадавалі дадзеныя па яўцы, што дало магчымасць адсочваць рэальную яўку на працягу ўсяго дня.

На 12:00 гадзін яўка на выбарчых ўчастках ў Менску разам з датэрміновым галасаваннем складала 22,6%.

На 16:00 гадзін яўка на «выбарах» скаладала 34,4%. Яўка па Менску дасягнула 30,8%.

У 19:05 быў закрыты доступ да сайту bchd.info для ўсіх карыстальнікаў з Беларусі. Разам з тым застаўся доступ на сайт з іншых краін і пры дапамозе проксі-сервераў. Відавочна, што блакаванне сайта была звязана з актыўным байкотам БХД «парламенцкіх выбараў» і з публікаванымі на сайце лічбамі ад назіральнікаў БХД, якія сведчаць, што «выбары» ў краіне не адбыліся.

Нягледзячы на блакаванне, штаб БХД працягваў сваю працу і ў 20:10 агучыў папярэднія вынікі галасавання па краіне – агульная яўка склала 38,7% выбаршчыкаў.

Уначы гэтыя дадзеныя былі ўдакладненыя. Паводле канчатковых падлікаў вынікаў назірання актывістамі Беларусай Хрысціянскай Дэмакратыі, зарэгістраванымі на некалькіх сотнях выбарчых участках, СЯРЭДНЯЯ ЯЎКА НА «ВЫБАРАХ» ПА КРАІНЕ СКЛАЛА 44,7%. Пры гэтым у Менску яўка склала і таго менш – 39,4%.

Рост выніковых лічбаў адносна прамежкавых, агучаных БХД а 20-й гадзіне, тлумачыцца апрацоўкай дадзеных ад усіх назіральнікаў, а таксама тым – і гэта больш важна – што да моманту падліку галасоў не былі вядомыя вынікі галасавання на даму, бо яно, збольшага, рабіліся таемна ад назіральнікаў.

Варта адзначыць, што ў Менску ўлады не паводзілі сябе так нахабна і не мелі такіх магчымасцяў, як у рэгіёнах, каб так масава заганяць людзей на ўчасткі і збіраць подпісы па дамах. Напрыклад, у Воршы на 51-м участку 27-й акругі ў галасаванні ўдзельнічалі 718 чалавек. З іх 448 – на даму, што, безумоўна, выклікае вялікія падазрэнні адносна сапраўднасці вынікаў галасавання на даму.

Такім чынам, У ЦЭЛЫМ, «ВЫБАРЫ» ПА КРАІНЕ НЕ АДБЫЛІСЯ. Да таго ж факт, што амаль 18% выбаршчыкаў, паводле дадзеных незалежных назіральнікаў, былі загнаныя на ўчасткі прымусова падчас датэрміновага га-

*Працяг на стр. 2*

# Вольга Кавалькова засведчыла датэрміновы друк бюлетеняў

22 жніўня актывістка Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Вольга Кавалькова выявіла, што ЦВК ужо выпусціў бюлетэнь па 91-й акрузе, у якім стаяць імёны чатырох кандыдатаў, хаця ў Вольгі Кавальковай ёсць яшчэ тры дні на абскарджванне рашэння ЦВК адносна яе нерэгістрацыі. Фота гэтага бюлетэню здолела зрабіць актывістка.


БЮЛЕТЭНЬ
на выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспу...
23 верасня 2012 г.
Шабаноўская выбарчая акруга № 91
г. Мінск

Парадак запаўнення бюлетэня
Пастаўце любы знак у пустым квадраце, які размешчаны спр... прозвішча толькі аднаго кандыдата, за якога Вы галасуеце, або ў квадр... радка "Супраць усіх кандыдатаў".
Бюлетэнь, у якім знак пастаўлены больш чым у адным квадраце а... пастаўлены ні ў адным з іх, прызнаецца несапраўдным.

Майбарада Уладзімір Васільевіч
нарадзіўся 10 чэрвеня 1982 года, індывідуальны прадпрымальнік; жыве ў г.Мінску, беспартыйны

Няхайчык Аксана Уладзіміраўна
нарадзілася 08 студзеня 1967 года, старшыня Заводскай раённай арганізацыі Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Белая Русь"; жыве ў г.Мінску, беспартыйная

Ткачук Наталля Канстанцінаўна
нарадзілася 18 лютага 1971 года, ... жыве ў г.Мінску, беспартыйная

Шабан Уладзімір ...

# У Менску ў 110-й акрузе на «выбары» заваблівалі алкаголем

**У Менску ў 110-й выбарчай акрузе на ўчастках 696-697 выбаршчыкам, якія прагаласавалі, выдавалі квіток, які можна было атаварыць на месцы і атрымаць за гэта бутэльку піва, джын-тоніка ці мінеральнай вады.**

Пра гэта паведаміў Яўген Батура, які стаў сведкам «народнага волевыяўлення». Паводле яго словаў, у чарзе па алкаголь штораз узнікалі сваркі сярод тых, хто хацеў атрымаць задарма бутэльку. Цікава, што ўчасткі знаходзяцца ў сярэдняй школе № 108 па вуліцы Мендзялеева,15.

*Працяг. Пачатак на стр. 1*

ласавання, і самі б у выбарах, хутчэй за ўсё, не ўдзельнічалі.

Высновы: раней «выбары» ў Беларусі не прызнавалі беларуская дэмакратычныя апазіцыя і міжнародная супольнасць. Гэтым жа разам іх не прызнаў беларускі народ, адмовіўшыся ісці на ўчасткі, бо не верыць, што гэтыя «выбары» могуць штосьці змяніць.

Таксама нагадаем, што назіральнікі ад БХД масава былі не дапушчаныя да падліку галасоў, многія з іх былі папросту выгнаныя з участкаў. Назіральнікі накіравалі больш за 50 скаргаў на парушэнне выбарчага заканадаўства. Усе гэтыя факты сведчаць пра татальную фальсіфікацыю «выбараў» і масавыя парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, ні сама выбарчая кампанія, ні працэс галасавання не могуць лічыцца свабоднымі і справядлівымі.

# Скандальнае відэа: старшыня ўчастковай камісіі заяўляе, што яўка склала 28,6%

**Неверагодная выбарчая гісторыя адбылася на ўчастку № 594 Менскай Усходняй выбарчай акругі № 107. На відэа, якое зьняла назіральніца ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Вольга Кавалькова, выразна бачна і чутна, як старшыня выбарчай камісіі Хамянок Мікалай Мікалаевіч агучвае агульную лічбу прагаласаваўшых: «Лічба апошняя — 317 чалавек. Гэта датэрміновае, на даму і дзень выбараў».**




Усяго выбаршчыкаў на ўчастку 1109. Такім чынам, на ўчастку № 107 прагаласавала 28,8% выбарцаў. Адпаведна, выбары тут не адбыліся.

Але ў акруговай камісіі ў пратаколе з гэтага ўчастку зьявілася лічба 565. А гэта ўжо 50,9%. І выбары тут прызнаныя адбыўшыміся.

Радыё Свабода датэлефанавалася да старшыні выбарчай камісіі, які на відэазапісе агучвае праўдзівую лічбу прагаласаваўшых на ягоным участку.

Хамянок Мікалай Мікалаевіч, які цяпер працуе ў прафсаюзнай арганізацыі ў ЖРЭА Савецкага раёну Менску, катэгарычна адмаўляе свае словы:

— А як атрымалася, што вы кажаце адну лічбу, а ў пратаколе іншая напісаная?

— Такога ня можа быць.

— А што за дзяўчына ў вас там пратакол выхапіла?

— У мяне?!! Я павесіў пратакол. Ніхто ў мяне нічога не выхопліваў. Павесіў пратакол і пайшоў. А далей я ня ведаю, што там было.

— Дык колькі ж прагаласавала ў вас?

— Пяцьсот шэсьцьдзесят адзін ці тры… Зараз скажу вам…. Пяцьсот шэсьцьдзесят пяць.

— Ёсць відэа, дзе вы лічыце … Паказваеце назіральнікам бюлецені, кажаце лічбу 317…

— Ня можа такога быць!

— А зараз кажаце 565

— Ня можа такога быць! Калі ласка, ідзіце ў камісію, будзем разьбірацца.

Вольга Кавалькова: «Камэра ўвесь час знаходзілася на стале назіральнікаў, была ўключаная. Не было ніякай складанасьці зьняць. Але яны ня думалі, што яна працуе. Таму такое відэа зьявілася. Я думаю, што гэта сэнсацыя сёньняшніх выбараў».

# Начальнік на ўчастку: «Трэба, каб сёння прагаласавала 40%. Абтэлефаноўвайце, запрашайце»

**Сябра ўправы БХД Валерыя Чарнаморцава, якая назірае 594-м выбарчым участку 107-й выбарчай акругі ў Менску, стала сведкай цікавага дыялогу сябраў участковай камісіі – супрацоўнікаў ЖЭСаў Савецкага раёну Менску – з іх начальнікам, які прыехаў на ўчастак «з праверкай», хаця афіцыйна да выбарчага працэсу ніякага дачынення не мае. Падаем гэты дыялог на сайце БХД:**

Сябра камісіі: – Мы ўжо прыймаем людзей, сем чалавек сёння ўжо прыйшло, прагаласавала.

Начальнік: – Ну і колькі ў вас павінна быць сёння, 40% людзей?

Старшыня камісіі (зважаючы на назіральніка): – У нас павінна быць сёння... Сёння ў нас павінна быць... Ну хто прыйдзе...

Начальнік: – А няма ў вас такога, колькі, хто прыйдзе?

Сябра камісіі: – Як гэта няма?!

Начальнік: – Вось бераце тэлефон, абтэлефаноўваеце, запрашаеце людзей!

Сябра камісіі: – Так, я так і раблю.

Начальнік: – Пакажыце, колькі вы запрасілі!

# Назіральнік ад БХД здолеў сфатаграфаваць інструкцыю для праўладных назіральнікаў

**інструкцыю для праўладных назіральнікаў**

Назіральнік ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі здолеў сфатаграфаваць інструкцыю для праўладных назіральнікаў, якую распаўсюджваюць па выбарчых участках.

Заўважым, што там няма ніводнага слова пра кантроль за сумленнасцю выбараў, а толькі пра тое, як трэба супрацьстаяць мясцовым і міжнародным назіральнікам.

Як адзначаюць назіральнікі ад БХД, яны ўжо сутыкнуліся з перашкодамі ад праўладных назіральнікаў, чыніць якія іх вучаць у дадзенай інструкцыі.

Тэкст інтструкцыі:

АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАНЬНІ ДА ЎНУТРАНАГА НАЗІРАЛЬНІКА НА ЎЧАСТКУ ДЛЯ ГАЛАСАВАНЬНЯ

1. Разумная актыўнасьць. Галоўнае ў працы назіральніка — не ствараць перашкодаў у працы камісіі.

2. Дабразычлівасьць у кантактаваньні. Падтрымка бесканфліктнага асяродзьдзя (уменьне гасіць канфлікты, якія ўзьнікаюць).

3. Прынцыповасьць у адстойваньні дзяржаўных інтарэсаў пры парушэньні выбарчага заканадаўства альтэрнатыўнымі назіральнікамі, складаньне адпаведных актаў і заяваў.

4. Адкрытасьць для дыялёгу, пераканаўчасьць у кантактаваньні зь міжнароднымі назіральнікамі.

5. Спакойны ўзважаны падыход.

6. Веданьне Выбарчага кодэксу РБ, сваіх правоў і абавязкаў (арт. 13)

7. Складаньне актаў і заяваў на адрас міжнародных назіральнікаў

8. Арганізаваная праца па перадачы інфармацыі на рэспубліканскую гарачую лінію (пры неабходнасьці).



Основные требования
к внутреннему наблюдателю
на участке для голосования

1. Разумная активность. Главное в работе наблюдателя – не создавать помех работе комиссии.

2. Доброжелательность в общении. Поддержка бесконфликтной среды (умение гасить возникающие конфликты).

3. Принципиальность в отстаивании государственных интересов при нарушении Избирательного законодательства альтернативными наблюдателями, составление соответствующих актов и заявлений.

4. Открытость для диалога, убедительность в общении с международными наблюдателями.

5. Спокойный взвешенный подход.

6. Знание Избирательного кодекса Республики Беларусь, своих прав и обязанностей (ст. 13 Избирательного кодекса Республики Беларусь).

7. Составление актов и заявлений в адрес международных наблюдателей.

8. Организованная работа по передаче информации на республиканскую горячую линию (при необходимости).

WWW.BCHD.INFO

# У Полацку скрыня для датэрміновага галасавання была падрыхтавана для ўкіду бюлетэняў



**Сябар БХД з Навапалацку Сяргей Малашэнак, які зарэгістраваны назіральнікам на ўчастку для галасавання № 31 Полацкай гарадской выбарчай акругі №28, зафіксаваў, што на гэтым участку створаныя ўмовы для фальсіфікацыі «выбараў» на датэрміновым галасаванні.**

Паводле яго словаў, у апячатанай скрыні для галасавання ёсць магчымасць для падмены бюлетэняў. У яе дне маецца шчыліна прыкладна 1.5 сантыметры, а магчыма і больш. Назіральнікам нельга чапаць скрыню і праверыць, наколькі яна шырокая. На фота бачная шчыліна, для маштабу побач ляжыць аўтамабільны ключ.

Адзначым, што сама скрыня празрыстая. І нават гэта не гарантуе празрыстасці «выбараў».

# Агляд парушэнняў на датэрміновым галасаванні па краіне: галасаванне без дакументаў і за сваякоў

**Агляд асноўных парушэнняў пры правядзенні датэрміновага галасавання па краіне, зафіксаваных назіральнікамі аб Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.**



Для пачатку адзначым асноўныя моманты, характэрныя для многіх участкаў. Так, на шэрагу ўчасткаў у Магілёве, Бабруйску, Гародні, Гомелі і г.д. людзі галасуюць без пацвярджаючых іх асобу дакументаў як знаёмыя сябраў участковых камісій. У Нароўлі, Воршы і іншых месцах ёсць выпадкі галасавання за блізкіх сваякоў.

***Найбольш яскравыя парушэнні:***

**Масты:** былі праведзеныя бацькоўскія сходы вучняў школ, на якіх бацькоў заклікалі ўдзлельнічаць у датэрміновым галасаванні.

**Рагачоў:** падаткавікі цікавяцца прыбыткамі незалежных назіральнікаў

**Гомель:** на 11 і 12 участкі 34-й акругі прыходзяць прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якія складаюць пісьмовыя заявы аб тым, што «выбары» праходзяць без «сучка і задорінкі». Акруговая камісія 34-й акругі 20 верасня адмовілася рэгістраваць скаргу на старшыню ўчастка № 3 Герашчанку Е.В. за тое, што афіцыйная яўка 80 чалавек, а рэальная – 26.

**Бабруйск:** На 2-м участку 78-й акругі паводле афіцыйных дадзеных за дзень прагаласаваілі 108 чалавек, паводле дадзеных назіральнікаў – 22. На прадпрыемстве «Белшына» прадстаўнікоў адміністрацыі адпусцілі з працы на 40 хвілін раней, каб яны маглі прагаласаваць датэрмінова.

**Віцебск:** На 20-м участку 76-й акругі каардынатарцы БХД па Віцебшчыне Таццяне Севярынец, якая зарэгістраваная там назіральнікам, намеснік дырэктара па выхаваўчай працы, які не мае дачынення да выбарчай камісіі, замінаў фатаграфаваць масавыя галасаванні студэнтаў (на фота) і спрабаваў адабраць фотапарат. Пасля ён напісаў скаргу на незалежны назіральнікаў, што яны быццам бы фатаграфавалі яго.

**Магілёў:** за чатыры дні назіральнікі па Магілёўскай прамысловай 87-й акрузе зафіксавалі шмат парушэнняў з боку выбарчых камісій. Так 18 верасня на выбарчым участку №33, паводле дадзеных назіральніка, прагаласавалі 6 чалавек, а паводле дадзеных камісіі – 96. На гэта была пададзена скарга, але адказу пакуль не атрымалі. Розніца ў 16 разоў!

# Віталь Рымашэўскі. Байкот-2012. Беларускі народ супраць рэжыму Лукашэнкі - 1:0



**Дадзеныя ўсіх незалежных назіральнікаў адназначна кажуць пра тое, што ў Менску і ва ўсіх буйных гарадах краіны парламенцкія «выбары» не адбыліся. Кожны, хто прыйшоў на свой выбарчы ўчастак 23 верасня за 10-20 хвілін да яго закрыцця, змог пераканацца асабіста — з дому, пад'езду «прагаласавалі» літаральна адзінкі. Паводле падлікаў незалежных назіральнікаў, у Менску прыйшлі на «выбары» не больш за адну траціну выбаршчыкаў.**

Незалежнае назіранне ў Беларусі было арганізавана некалькімі структурамі: «За справядлівыя выбары», «Праваабаронцы за свабодныя выбары», назіральнікі ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, моладзевы праект «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка», незалежныя назіральнікі ад іншых арганізацый. Гэтыя арганізацыі ніяк паміж сабой не каардынаваліся, аднак, усе вынікі кажуць пра адно і тое ж — байкот выбараў у Менску і ва ўсіх буйных гарадах. Тое, што гэтыя лічбы практычна супадаюць, пацвярджае — байкот падтрымала большасць беларусаў.

Байкот адбыўся. Нягледзячы на пагрозы, на прымусы студэнтаў, бюджэтнікаў, ваенных да датэрміновага галасавання, беларусы не прыйшлі на выбарчыя ўчасткі. Мільёны беларусаў зрабілі крок ад статыстычнай адзінкі да таго, каб быць грамадзянінам Беларусі.

Кампанія 2012 стала сапраўдным рэферэндумам аб недаверы да дзеючай улады, недаверы беларускага народа да ўсёй палітычнай сістэмы Беларусі. І не так істотна, свядома ці не ўдзельнічалі людзі ў байкоце, — не кожны беларус дасканала разбіраецца ў палітыцы. Але важна тое, што народ адчуў патрэбу выказаць сваё стаўленне да «выбараў», выказаць свой пратэст, хай пакуль што ў такой пасіўнай форме.

Улада, якая заклікала, прымушала, запалохвала, чарговы раз паставілася да беларусаў як да бязвольнага неразумны статку. Падобнае стаўленне было і ў тых апазіцыянераў, хто працаваў з «большасцю, што ня вызначылася» і заклікаў прыйсці на выбары, — маўляў, беларусы не дараслі яшчэ да разумення таго, што такое палітыка, з імі трэба па-простаму — пра «чарку і шкварку» , пра прывабных кандыдатаў і «светлую будучыню». Але беларусы сказалі «НЕ» хлусні, падману, гвалту, прымусу. Праз байкот «выбараў» народ прагаласаваў ЗА сваё права абіраць уладу, ЗА тое, што ўлада павінна лічыцца з яго меркаваннем, ЗА права «людзьмі звацца».

Калі раней «выбары» у Беларусі не прызнавалі толькі беларуская апазіцыя і міжнародная дэмакратычная супольнасць, дык гэтым разам іх не прызнаў беларускі народ.

Галоўным вынікам гэтай кампаніі з'яўляецца тое, што беларускі народ заявіў пра сябе як пра суб'ект беларускай палітыкі, з меркаваннем і жаданнем якога неабходна лічыцца, а не толькі маніпуляваць.

Байкот 2012 года — гэта рэальная перамога беларускага народа над рэжымам у навязанай уладамі гульні пад назвай «выбары», крок на шляху да сапраўднай свабоды Беларусі і яе грамадзян.

Гэта — самае галоўнае ў палітычнай кампаніі 2012 года. Нягледзячы ні на якія спробы гэтую перамогу абылгаць, ачарніць, схаваць, яна дае падставы для наступнага кроку — правядзення свабодных выбараў у свабоднай Беларусі.



# Павал Севярынец. Вырабы

*Няма нічога таемнага,*
*што не выйшла б на яву,*
*ні схаванага,*
*што не зрабілася б вядомым*
*і не выкрылася б.*
*Лукі 8:17.*

Большасць беларусаў упэўненая, што выбары ў краіне адбываюцца так.

На загад старшыні камісіі жанчынкі некалькі дзён выбіраюць у грасбухах прозвішчы выбаршчыкаў, якія не галасавалі на апошніх «выбарах». Звычайна набіраецца некалькі соцень на ўчастак. Маладзенькай настаўніцы беларускай мовы («почырк у цябе прыгожы, знаем,» — пасмейваецца старшыня) даручаюць за іх распісацца. У суботу ўвечары, калі са школы ўсе разыдуцца, некалькі стосаў падрыхтаваных бюлетэняў «ЗА» пачкамі, складзенымі для зручнасці ўдвая, гахнуць у урну. Потым, пры падліку, калі ўсё гэтае дабро вываліцца на стол «кніжкамі» ды рулончыкамі, настаўніца ледзь прыкметна пачырванее і апусціць галаву, каб не было відаць.

Гэта — «скруткі».

Два сябры ўчастковай камісіі разам з бээрэсэмаўскім «назіральнікам», вяртаючыся з выязной скрыняй, спыняюць уазік на ўзбочыне, заходзяць за прыдарожныя елачкі, ускрываюць скрыню (дно на шурупах, пячатка захаваецца, не ссы), пералічваюць запоўненыя бюлетэні і пазначаюць вынік на абрыўку газеты. Стос «няправільных» спальваюць тут жа, пад елачкамі, прычым кіроўца эканоміць пстрычку запальнічкі і зацягваецца цыгарэцінай на манер таварыша Сухава; адпаведную колькасць загадзя падрыхтаваных «правільных» укідваюць. Уся аперацыя займае хвілінаў дзесяць — не першы год замужам. Тут жа, на капоце ўазіка, побач з гатовай скрыняй, у пластыкавыя конаўкі разліваецца па сто пяцьдзясят — «за нас з вамі і за хрэн з імі», — і кампанія руліць у «камісію», каб паспець да падліку.

Гэта — «елачкі».

А падчас падліку звесткі пра вынікі члены камісіі передаюць старшыню. Наўздагад тыцкае пальцам у клавішы калькулятара. Усё гэта, вядома, лухта, нічога ён так не лічыць, але, каб і жанчынкі, і назіральнікі ў далёкім куце багавейна замерлі ў чаканні — вось яна, кульмінацыя! — для салідднасці кашлянуўшы, абвяшчае лічбы, яшчэ тыдзень таму спушчаныя з райвыканкама.

Гэта — «калькулятар».

Усё.

Дарэчы, нават паводле лукашэнкаўскага кодэкса, за такія штукі належыць ад двух да сямі гадоў.

Выбараў у нас і праўда няма: беларусы калі і не ведаюць гэтага, дык здагадваюцца.

Ёсць вырабы.

На выбарах выбіраюць, а вырабы вырабляюць. Вырабы «дэпутатаў палаткі прадстаўнікоў»

— проста прастаўленне штампіка з тэрмінам захоўвання на канвееры звыклых кадраў. Спрыт рук, лёгкая сарамлівасць — і макаронныя вырабы, якія вешаюць на вушы мільёнам беларусаў, гатовыя.

Вы — рабы.

У Аграмадным падмане «вырабаў» удзельнічаюць тысячы і тысячы беларусаў. Тых самых дабрадушных, мажных, усім вядомых дзядзькоў, якія ўсё разумеюць, але піхаюцькткі ў урну пачкі, замяняюць з суботы на нядзелю скрыні з датэрміновым ды хітра пасміхаюцца назіральнікам; тых самых сямейных кабетаў з савецкімі прычоскамі, харошых мамаў і душэўных жэншчын… якія, калі што, раптам ускіпяць і пырснуць нянавісцю.

А калі яны робяць гэта ўжо гадоў наццаць?.. А калі хлусіць, красці, махлярыць — ужо норма, якая ўелася ў плоць і кроў, працяла да касцявога мозгу, да здранцвення ўсялякіх згрызотаў?..

Вырабы — нясцерпна балючы зрэз беларускай ментальнасці. Яўны падман пад выглядам непарушнай законнасці, ліслівая гасціннасць і гэтае «мы вам зробім усё што заўгодна, толькі не кранайце!» з сутаргавай дуляй у кішэні…

Але ўсё таемнае ўрэшце становіцца яўным.

Беларускі народ на «парламенцкія вырабы» не пойдзе — гэта відавочна. Тым, хто ўнутры сябе выбар мае, гэтую відавочнасць трэба толькі зафіксаваць.

Тут галоўнае — ускрыць механізм дзеяння зла, каб ён стаў ясным для кожнага. А зрабіць гэта можна толькі тады, калі ўсе заўважаныя звёны ланцуга вырабаў будуць хутка трапляць у сеціва і прэсу ды складацца ў паслядоўную карціну. Гвалт ці прымус на датэрміновым «галасаванні», факты роспісаў за «мёртвыя душы», нестыкоўка звестак па бюлетэнях, розніца яўкі і выніку «камісіі» ў разы…

Відавочца байкоту можа быць і зарэгістраваным назіральнікам, і стаяць ля ўваходу на ўчастак, і весці анлайнтрансляцыю за праходам на «галасаванне» 23 верасня з машыны. Чым больш моманатаў ускрытага злачынства ўдасца вылавіць ды вывесіць сушыцца на ўсеагульны агляд у нэт — тым больш шанцаў, што беларускі народ нарэшце вырабаў жахнецца.

Расея і то ачомалася.

Вырабы ў сённяшняй сістэме — рэч ключавая.

Няўдзел у вырабах — гэта непрызнанне законнасці зла. Масавы няўдзел у жыцці рэжыму немінуча вядзе да ягонай смерці. Аддзяленне сябе ад рэжыму — паняцце, блізкае да практыкавання ў святасці.

Адняць у Чалавека права выбару — адно з найвялікшых злачынстваў і прамы выклік Богу. Бо гэта Творца даў чалавеку такую свабоду, такое права выбару, што нават Сам не прымушае паверыць у Яго відавочным з’яўленнем.

Пакуль ты жывы — выбар ёсць. Быць ці не быць. Біць ці не біць. Жыць у граху ці каяцца.

І той, хто вырашае «быць», хто адмаўляецца прымаць зло як норму жыцця, хто з каранямі вырывае цемру з уласнага сэрца — у пошуках свабоды, праўды і справядлівасці рана ці позна раптам зразумее, што выбраў Бога.

Куплін

# Папа Бенедыкт XVI перадаў вітанні беларускім палітвязням

**Апостальскі нунцый сустрэўся з Паўлам Севярынцам. Апостальскі нунцый у Беларусі, арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці ў Купліне сустрэўся з палітвязнем, сустаршынёй аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўлам Севярынцам.**



Сустрэча адбылася ў рамках наведвання нунцыем беларускіх палітвязняў. Яна прайшла ў кабінеце начальніка спэцкамендатуры.

Гуджэроці выказаў Севярынцу «словы падтрымкі і ўвагі».

Яны «пагаварылі пра палітвязняў». Севярынец папрасіў арцыбіскупа паспрыяць далучэнню касцёла да кампаніі БХД «За сямейныя каштоўнасці», у рамках якой плануецца ўнесці змены ў закон аб ахове здароўя.

Нунцый паведаміў, што да зняволенага ў Бабруйску праваабаронцы Алеся Бяляцкага днямі змог трапіць каталіцкі святар.

Гуджэроці перадаў вітанні беларускім палітвязням ад Папы і паведаміў, што ў кастрычніку збіраецца сустрэцца ў Рыме з Бенедыктам XVI.

Севярынец «выказаў падзяку апостальскаму нунцыю і ўсяму акрэдытаванаму ў Беларусі дыпкорпусу за візіт і ўвагу». Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года палітык кіраваў штабам кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага. 16 траўня 2011 года ён быў асуджаны да 3 гадоў абмежавання волі па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія парушаюць грамадзкі парадак, або актыўны ўдзел у іх).

# Апазіцыя: парламенцкія выбары ў Беларусі не адбыліся!



**Парламенцкія выбары ў Беларусі не адбыліся. Апазіцыя пачынае кампанію па інфармаванні грамадзян «аб рэальных выніках выбараў». Пра гэта было заяўлена 25 верасня на прэс-канферэнцыі ў Менску прадстаўнікамі сямі апазіцыйных структур.**

Кампанію будуць праводзіць **аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД), Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП), міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Малады фронт» (Чэхія), «Беларускі рух», Незалежны прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці, Рада беларускай інтэлігенцыі і грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь».**

«Тое, што ў Беларусі адбылося, не можа лічыцца выбарамі, гэта былі псеўдавыбары ў ілжэпарламент», – заявіў лідэр АГП Анатоль Лябедзька. Ён нагадаў, што прадстаўнікі АГП і іншых дэмакратычных арганізацый актыўна ўдзельнічалі ў назіранні на выбарчых участках і былі задзейнічаны ў выбарчых камісіях.

«Па тых дадзеных, якія мы атрымалі ад нашых людзей, якія ўдзельнічалі ў розных сетках незалежнага назірання, мы канстатуем, што больш за палову выбаршчыкаў Беларусі не ўзялі ўдзел у галасаванні. Па Менску гэтая лічба яшчэ больш страшная для ўлады — дзве трацiны выбаршчыкаў не прыйшлі на ўчасткі . Гэта пацвярджаецца дадзенымі назіральнікаў і тых, хто працаваў у камісіях. Гэта дае нам падставы заявіць, што так званыя выбары не адбыліся, яны не могуць мець юрыдычных наступстваў для Беларусі. У нас няма абраных дэпутатаў, няма парламента, на яго месцы ўтварылася чорная дзірка», — заявіў Лябедзька.

Паводле словаў палітыка, розныя сеткі назіральнікаў вялі падлік яўкі больш чым на 1.300 выбарчых участках. «Нават сацыёлагі бяруць выбарку ў 1.500 чалавек і лічаць яе рэпрэзентатыўнай», - адзначыў ён.

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Віталь Рымашэўскі, у сваю чаргу, адзначыў, што дадзеныя ўсіх назіральніцкіх кампаній «не надта адрозніваюцца паміж сабой».

«Будзь гэта кампанія назірання «За справядлівыя выбары», або «Праваабаронцы за свабодныя выбары», або назіральнікі ад БХД, або незалежныя назіральнікі ад іншых арганізацый — ва ўсіх практычна адны лічбы, разбежка ў адзін-два адсоткі. Прычым, гэтыя кампаніі ніяк паміж сабой не каардынаваліся. І тое, што гэтыя лічбы практычна супадаюць, дае нам падставу казаць, што ў Менску і ў буйных гарадах выбары не адбыліся», — заявіў Рымашэўскі.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі прызналі, што ў сельскай мясцовасці незалежнае назіранне не вялося. Аднак, як заўважыў лідэр аргкамітэта па стварэнні «Беларускага Руху» Віктар Івашкевіч, паводле апошняга перапісу насельніцтва 75% жыхароў Беларусі жывуць у гарадах. «Беларусь ужо не калгасная і не сельская краіна, таму мы можам казаць, што лічбы назірання адлюстроўваюць пазіцыю большасці», — лічыць Івашкевіч.

# «Малады фронт» і МХД пачалі новы этап барацьбы за вызваленне палітвязняў

**Барацьба за палітвязняў у Беларусі набывае новыя формы. «Малады фронт» і «Маладыя хрысціянскія дэмакраты» прэзентавалі інтэрнэт-рэсурс, на якім кожны грамадзянін можа выступіць за вызваленне палітычных вязняў.**




Марына Хоміч, «Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты»:

«Подпіс, пастаўлены он-лайн, будзе мець юрыдычную сілу. Мы ўлічылі змены ў заканадаўстве аб зваротах грамадзянаў, і калі мы ставім подпіс на сайце, ён накіроўваецца ў адмысловыя юрыдычныя ўстановы, якія абавязаныя даць адказ на запыт».

Кампанія стартуе акурат цяпер, бо паводле стваральнікаў ініцыятывы, сітуацыя ў краіне не змяняецца, а пра існаванне палітычных зняволеных забываюцца нават у апазіцыйных колах. Аднак…

Мікалай Дземідзенка , «Малады Фронт»:

«Пасля выбараў і цяпер гэта галоўная тэма, на нашае меркаванне, – змаганне за свабоду палітвязняў. Яны ў вельмі няпростых умовах».

# Змітру Дашкевічу ў калоніі пагражаюць згвалтаваннем



## Зміцер Дашкевіч трымае галадоўку супраць цкавання ў Мазырскай калоніі.

У сераду 26 верасня СМІ пісалі пра ўтрыманне зняволенага старшыні «Маладога Фронту» ў карцары мазырскай калоніі і пра тое, што ён галадае ўжо 7 дзён.

Зміцер Дашкевіч распачаў галадоўку. Прычыны галадоўкі – гэта нечалавечыя паводзіны адміністрацыі мазырскай калоніі, у тым ліку, асабіста яе начальніка Юрыя Багданавіча Збароўскага.

Зміцер Дашкевіч перадаў, што спыніць галадоўку толькі тады, калі турэмнае начальства перастане яго цкаваць і пачне да яго адэкватна ставіцца, а таксама папросіць прабачэння за ранейшыя абразы і пагрозы.

Мы не даем ацэнку паводзінам адміністрацыі мазырскай калоніі – гэтым няхай займаецца Генпракуратура, у якую будуць накіраваныя скаргі па кожным з абуральных інцыдэнтаў, што адбыліся ў Мазыры. Мы проста апішам гэтыя сітуацыі, каб Вы мелі ўяўленне, у якіх умовах вымушаны адбываць пакаранне Зьміцер Дашкевіч.

- Зьміцер Дашкевіч прыбыў у Мазыр ў ПК-20. Пры першай сустрэчы з кіраўнікам калоніі той пацікавіўся, якую веру спавядае Дашкевіч. Пачуўшы спакойнае «пратэстант», ён распавёў Дашкевічу шмат новага пра гэтую канфесію, напрыклад: «Эти ваши секты насаждаются Западом, чтобы разрушить славянскую расу!». Б'е сябе ў грудзі па праваслаўным медалі і праз маты працягвае: «Это Вы славянскую расу разрушаете!» Зьміцер здзвіўся цёпламу прыёму і спакойна закрыў гэтую балючую для кіраўніка ПК тэму.

- Зміцер адмовіўся прыбіраць каранцін (атрад, дзе пасля прыбыцця ў калонію першыя тыдні находзяцца вязні). Атраднік каранціна хадайнічае пра размову з ім. Збіраецца камісія. 7 чалавек. Кіраўнік Юрый Багданавіч Збароўскі: «Так, ты будзешь тут качать права, баптист, дважды кодированный алкоголик, гомосек? Ты – кучка говна, а не премьер-министр Франции». Усе крычаць на Змітра: «Посмотрите, тупая заточка какая у него? Да он же дебил!» З такою камісіяй Дашкевіч размаўляць адмовіўся. У гэты дзень яго пазбавілі ўсіх доўгіх спатканняў і далі вымову.

- У барак, куды толькі-толькі завялі Дашкевіча і дзе жыве блізу 40 чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на стале лязо. Адразу звярнуўшыся да Дашкевіча, ён пытаецца: «Што, ускрыцца вырашыў?»

Павялі да начальніка рэжымнага аддзелу. «Пиши, где взял!» - загадвае ён. «Ды не маё», – адказвае Дашкевіч. — «Было найдено у тебя в личных вещах! Да что ты думаешь про себя? Ты же алкаш, ниже плинтуса, кучка говна, ты здоровье своё оставишь здесь в ШИЗО, ты меня понял? Я тебе обещаю!» Зміцер замест гэтай заявы перадаў яму заяву пра тое, што ён распачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзелу яе змяў і выкінуў, але пры гэтым сказаў: «Я тебя посажу к блатным, там тебя оттрахают , понял? Пиши объяснения, я тебе сказал!» - «Я ТАБЕ пісаць нічога не буду», – кажа Зміцер. «Что? Что ты сказал? Да я сейчас рапорт напишу о недолжном обращении ко мне! « — «Па тым, як ТЫ мне тут «тыкаеш» я падумаў, што мы ўжо фактычна сябры».

- Прыйшоўшы назад у каранцін, Дашкевіч распавядае кіраўніку каранціна: «Гэта дэбілізм у кубе пасля Горак». У гэты час у памяшканні прысутнічаў нейкі маёр, які, падслухаўшы размову, па-маёрску праўдзіва дадзеную рэпліку распісаў у чарговым рапарце — «мат, абраза адміністрацыі». І, як вынік, раніцаю новая камісія. Акторы ўсе тыя ж. Там тое самое, толькі ўжо пазбавілі ўсіх кароткіх спатканняў. Зміцер глядзеў на гэта ўсё і маўчаў… Але кіраўніку і гэтая рэакцыя была не да спадобы: «Так ты молчишь, провоцируешь?! Поставить тебя на профучёт у психолога?» Псіхолаг паддакнула: «Да-да, ещё надо как и суицидника поставить на учёт, он же лезвие прятал!»

Звернем Вашую ўвагу, што паставіць чалавека на ўлік як суіцыдніка – гэта фактычна развязаць рукі адміністрацыі калоніі і мець бездакорнае тлумачэнне ў выпадку нейкіх здарэнняў – «ён жа суіцыднік»…

- Пасля такіх і шмат якіх іншых інцыдэнтаў Зміцер адмовіўся выконваць любыя загады, яго адправілі зноў на камісію, але там далі новы тэрмін ШЫЗА. Наколькі часу – невядома.

- Паколькі Зміцер не быў пэўны, ці далучылі да асабістай справы інфармацыю пра галадоўку, ён вырашыў хадзіць з ШЫЗА два разы на суткі мераць ціск, каб было сведчанне таго, што ён ад галадоўкі не адмовіўся і не адмовіцца да таго часу, пакуль стаўленне да яго не зменіцца і прабачэнняў у яго не папросяць. Але лекар проста выгнала яго з крыкамі: « Пошёл вон!». Зміцер напісаў на гэта скаргу ў мазырскую пракуратуру, але ці выйшла яна па-за межы калоніі, ніхто не ведае.

«Зміцер Дашкевіч у калоніі ўсяго тыдзень. Што можа быць далей – цяжка ўявіць…У размове са мною начальнік рэжымнага аддзелу прыгразіў, што калі нешта выйдзе ў СМІ – Дашкевічу будзе горш. Але я не бачу іншага варыянта, акрамя агучвання гэтых жудасных рэчаў. Дарэчы, начальнік калоніі спрабаваў выкруціць гэтую гісторыю наадварот – маўляў, Зміцер вар'яцее, лаецца матам на іх, абражае…», — распавяла падрабязнасці Наста Палажанка.

Заклікаем Вас пісаць Змітру Дашкевічу лісты падтрымкі па адрасе: Мазыр -11, ПК-20, індэкс 247760

Таксама Вы можаце скіраваць тэлеграму начальніку калоніі Збароўскаму Юрыю Багданавічу па адрасе: Мазыр -11, ПК-20, індэкс 247760

# Заява БХД: Цкаванне Дашкевіча – злачынства без тэрміну даўніны

**26 верасня з’явілася інфармацыя пра ціск на лідара Маладога Фронту, палітвязня Зьмітра Дашкевіча з боку адміністрацыі Мазырскай папраўчай калоніі № 20 і асабіста яе кіраўніка Юрыя Збароўскага. У прыватнасці, начальнік калоніі зняважліва выказваўся у дачыненні да пратэстанцкіх цэркваў і веры Зьмітра Дашкевіча, пагражаў яму гвалтам з боку іншых вязняў, усяляк абражаў і зневажаў палітвязня. У выніку чаго ён быў вымушаны абʼявіць галадоўку пратэсту.**

Аргкамітэт Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі патрабуе ад кіраўніцтва Мазырскай калоніі спыніць рэпрэсіі і здзекі ў дачыненні да лідара Маладога Фронту Зьмітра Дашкевіча.

Дзеянні Юрыя Збароўскага і ўсіх датычных да цкавання Дашкевіча падпадаюць пад вызначэнне крымінальнага злачынства без тэрміну даўніны.

Публічная абраза верніка-хрысціяніна ў краіне з 1000-гадовай хрысціянскай гісторыяй – выклік усім Цэрквам Беларусі, усяму грамадству. Аргкамітэт БХД заклікае ўсіх людзей добрай волі падтрымаць Зьмітра Дашкевіча, а Генеральную пракуратуру – правесці аб’ектыўнае і ўсебаковае даследванне прыведзеных фактаў.

Аргкамітэт БХД патрабуе вызвалення Зьмітра Дашкевіча і іншых палітвязняў. Свабоду Дашкевічу, свабоду Беларусі!

# Біскуп ХВЕ Сяргей Цвор патрабуе спыніць ціск на Зьмітра Дашкевіча

Выканаўца абавязкаў япіскапа Аб’яднанай Царквы хрысціян веры евангельскай у Рэспубліцы Беларусь Сяргей Цвор звярнуўся ў Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Генеральную пракуратуру і Дэпартамент выканання пакаранняў МУС Беларусі з просьбай «правесці ўсебаковае расследванне фактаў неправавых дзеянняў адміністрацыі Мазырскай папраўчай калоніі №20 у дачыненні да Дашкевіча Зьмітра Вячаслававіча, і ўжыць меры па недапушчэнні падобных фактаў у будучым».



# Яўген Васьковіч: з фашыстоўскім рэжымам супрацоўнічаць ня буду



**14 верасьня ў Магілёўскай турме № 4 старшыня абласной назіральнай камісіі пры Ўпраўленьні юстыцыі аблвыканкаму Віктар Сідарэнка сустрэўся са зьняволеным актывістам аргкамітэту партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Яўгенам Васьковічам.**

Нагодай для спатканьня, якое арганізавала Ўпраўленьне юстыцыі, сталіся скаргі на парушэньне правоў зьняволенага актывіста ў пытаньнях ліставаньня са сваякамі й паплечнікамі.

У назіральную камісію пісьмова зьвярнуўся бабруйскі журналіст Анатоль Санаценка, які зьвінавáціў турэмшчыкаў, што яны наўмысна чыняць перашкоды ліставаньню Васьковіча з вольным сьветам. У звароце журналіст патрабаваў аднавіць парушаныя правы вязьня.

Сябра Магілёўскага праваабарончага цэнтру Віктар Сідарэнка з пропускам, які выпісала Ўпраўленьне юстыцыі, трапіў у турму. Пад ёю чакалі вестак ад палітвязьня яго бабуля Тамара Ўладзімераўна й каардынатарка БХД Таісія Кабанчук. Як толькі праваабаронца выйшаў адтуль, першым пытаньнем было: ці бачыўся ён зь Яўгенам?

«З Жэнем усё добра. Далі нам зь ім пагутарыць сам-насам. Грошы ён атрымлівае. Пошту — кажа, што атрымлівае. Прасіў, каб мама яму даслала мэдыкамэнты. У студзені будзе спатканьне ў яго. Выглядае ён нармальна. Харчаваньне — кажа, што нармальнае, толькі троху яму патрэбны мэзін, у яго праблемы са страўнікам. Я запытаўся: „Ці ў камэры крыўдзяць?“ Ён адказаў, што ўсё нармальна. Камэра разьлічаная на дванаццаць чалавек, а ў ёй 8–10 бывае. Ён вясёлы і такі выгалены», — апавёў Віктар Сідарэнка.

Паводле праваабаронцы, у карцэр Васьковіч трапіў з-за дробных парушэньняў што да формы вопраткі і ўтрыманьня свайго спальнага месца ў камэры. Іх, зазначае Сідарэнка, нявольнік прызнае. Турэмшчыкі паскардзіліся праваабаронцу, што Васьковіч ня хоча працаваць, заяўляючы, што «на фашыстоўскі рэжым працаваць ня будзе».

Апошні ліст ад Яўгена Васьковіча сваякі атрымалі 3 жніўня. Пасьля гэтага, як стала вядома, Яўген праседзеў у карцэры трыццаць дзён. Паплечнікі надзвычай рэдка атрымліваюць ад яго лісты й паштоўкі, хоць самі пішуць яму рэгулярна. На сустрэчу з Васьковічам месяц таму ня змог трапіць адвакат. Як зазначае Таісія Кабанчук, турэмшчыкі тлумачаць, што Яўген сам ня хоча з адвакатам сустракацца.

# КАМПАНІЯ «МОЦНАЯ СЯМ'Я - МОЦНАЯ БЕЛАРУСЬ»

## Усім рэгіянальным кіраўнікам, актывістам і прыхільнікам БХД



УВАГА!

**У лістападзе 2012 году года будуць уносіцца змены ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя».** Менавіта гэтым законам дазваляецца і рэгулюецца правядзенне абортаў. За 2010 год было забіта 33.300 ненароджаных дзяцей! (46,1% зачатых дзяцей у Беларусі забіваюць да моманту нараджэння)

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь заклікала грамадзян краіны ўзяць удзел у абмеркаванні праекта новага Закону. У адказ Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя падрыхтавала свае прапановы па ўнясенні змяненняў у Закон.

**НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ САБРАНА НЕКАЛЬКІ ТЫСЯЧ ПОДПІСАЎ У ПАДТРЫМКУ ЗМЕНАЎ У ЗАКОН.**

**У ЛІСТАПАДЗЕ ЯНЫ БУДУЦЬ НАКІРАВАНЫЯ Ў МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

**ВАЖНЫ КОЖНЫ ГОЛАС! ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ЗБОРУ ПОДПІСАЎ!**

Асноўныя з прапанаваных БХД зменаў:

- Увесці права для лекара адмовіцца ад правядзення аборту;
- Увесці абавязковы пяцідзённы перыяд чакання з моманту падачы заявы аб намеры зрабіць аборт да моманту яго правядзення;
- Абавязаць лекараў інфармаваць жанчын аб рэлігійных і грамадскіх арганізацыях, якія займаюцца прафілактыкай абортаў;
- Як першы крок да поўнага спынення забойства ненароджаных дзяцей скараціць тэрмін для правядзення аборту да 7 тыдняў;
- Выключыць сацыяльныя паказанні для абортаў;
- Увесці забарону на правядзенне клінічных выпрабаванняў на чалавечых эмбрыёнах.

Калі прапанаваныя намі змены будуць прынятыя, дык ужо ў гэтым годзе будуць выратаваны тысячы жыццяў! Гэта першы крок да поўнага спынення забойства ненароджаных дзяцей у Беларусі.

**СЁННЯ Ў НАС З ВАМІ ЁСЦЬ УНІКАЛЬНЫ ШАНЕЦ АБАРАНІЦЬ ІХ ЖЫЦЦІ!**

- **Распавядзіце пра гэтую ініцыятыву іншым людзям;**
- **Пастаўце свой подпіс у падтрымку зменаў у закон і збярыце подпісы ў сваіх знаёмых;**
- **Далучайцеся да кампаніі ў абарону жыцця ў Інтэрнэце:**

**Падрабязная інфармацыя пра кампанію тут: http://vk.com/abaronabelarus**
**http://www.facebook.com/groups/abarona/**
**Тэл. +375291673435**
**АБАРОНІМ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ!**
**ЗАХАВАЕМ БЕЛАРУСЬ!**



# РАДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ У ДЗЕЯННІ



**Беларуская хрысціянская дэмакратыя на палітычным полі Беларусі з'яўляецца адной з самых інцыятыўных партый. Усе прапановы і інцыятывы хрысціянскіх дэмакратаў ёсць водгукам палітычных і гарамдскіх актывістаў на актуальныя праблемы простых беларусаў, якія жывуць ад сталіцы да самага аддаленага мястэчка.**

Сутнасць ідэі палягае ў тым, што ўсе кандыдаты ў дэпутаты або проста ахвотныя і ініцыятыўныя людзі на месцах будуць займацца ўласна дэпутацкай справай – змагацца за інтарэсы грамадзянаў сваёй акругі, горада, вобласці. Ініцыятыва была і з'яўляецца цалкам адкрытай, што дазваляе прадстаўнікам розных грамадскіх і палітычных арганізацый далучацца і ствараць лакальныя кааліцыі.

Так, Рада дзейнічае ўжо трэці год. 7 лістапада 2011 года кампаніі быў нададзены новы штуршок. Амаль у кожным буйным горадзе, дзе ёсць прадстаўніцтва БХД, Рада або яе прадстаўнікі актыўна дзейнічаюць і працуюць. Асабліва актыўна праца пачала весціся ад сярэдзіны 2011 года. Увогуле 2011 год шмат што каардынальна змяніў у жыцці краіны. Сур'ёзныя эканамічныя праблемы, нарастанне грамадскай свядомасці і адказнасці за будучыню краіны прымусілі людзей быць больш ініцыятыўнымі. У сваю чаргу тыя, хто дагэтуль баіцца браць на сябе адказнасць, гатовыя проста далучацца да іншых ініцыятыў. Такім чынам кожны народны дэпутат мае каманду – людзей, якія не з'яўляюцца публічна вядомымі, але актыўна спрычыняюцца да калектыўнага вырашэння мясцовых праблемаў.

**РАДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ – МЫ ДАПАМАГАЕМ ВАМ! ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!**

Тэлефануйце +375291673435
Лістуйце нам на e-mail: bchd.info@gmail.com
Шукайце нас на vk.com і facebook.com

**ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!**

## Збор ахвярванняў на ўшанаванне памяці айцоў-заснавальнікаў БХД ксяндзоў-пакутнікаў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

**Распачаўся дабрачынны збор ахвяраванняў на ўшанаванне памяці айцоў-заснавальнікаў БХД ксяндзоў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага. Сабраныя сродкі пойдуць на выраб мемарыяльных шыльдаў і памятных знакаў ксяндзам-пакутнікам, а таксама на арганізацыю гістарычнай канферэнцыі і друк матэрыялаў, прысвечаных іх памяці.**

Заклікаем ўсіх неабыякавых людзей, вернікаў далучыцца да ўшанавання памяці Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага. Ахвяраванні можна пералічваць на дабрачынны рахунак у Беларусьбанку з наступнымі рэквізітамі:

**Атрымальнік: ф-л 514 ААТ «ААБ Беларусбанк», УНП 100420097, Код банка 614 р/р 3819382102369.**

Пры пералічэнні грошаў на рахунак абавязкова пазначаць прызначэнне плацяжу: ахвяраванне на дабрачынны рахунак No.000001

Нагадаем, 2012 год у межах БХД быў абвешчаных годам памяці Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага, быў створаны аргкамітэт ушанавання іх памяці, які з прыцягненнем шырокай беларускай грамадскасці цягам году ініцыюе і праводзіць у Менску і іншых мясцінах Беларусі мемарыяльныя мерапрыемствы. Па ўсіх пытаннях працы аргкамітэту можна звяртацца па тэлефонах 8-029-571-26-11 (МТС) і 8-029-307-27-13(Вэлкам).





### Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 12 кастрычніка 2012г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.